Oplata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 13 (38) | Вільня, 8-га чэрвеня 1934 г. | Год 2-гі.

## За асьвету!

Па ўсім сьвеце шалее нячуваны гаспадарчы крызыс.

Жыць цяжка. Але гэта ня значыць, што жыць ня трэба. Наадварот — у наш цяжкі час трэба ўмець паборваць усе жыцьцёвыя злыбеды, трэба адважна ісьці насустрэчу труднасьцям ды каваць лепшае жыцьцё.

Толькі асьвечаны чалавек, толькі асьвечаны народ мае здольнасьць перамагаць перашкоды на шляху да лепшага заўтра, вывучваючы прычыны гэтых перашкодаў і выкараняючы іх.

А калі гэта так, дык робіцца ясным для кожнага, што маладому беларускаму пакаленьню **трэба вучыцца.**

Трэба вучыцца, каб ня гібець у цемры, па прыкладу дзядоў.

Трэба вучыцца каб яснымі вачыма магчы глядзець на сьвет, які перажывае цяпер гарачкі шуканьня новых жыцьцёвых формаў.

Трэба вучыцца, каб мець магчымасьць самым каваць сваю лепшую долю, бо сама сабою яна не палепшыцца.

Не дарма-ж сказаў Янка Купала:

„Доля ня прыдзе да нас
старанною —
З боку дарог ёй няма“...

З усіх прычын нашае нядолі найгалаўнейшая — недахоп асьветы.

Ёсьць невялічкі, у параўнаньні з намі, народ — Эсты, маладая дзяржава якога, паложаная на беразе Балтыцкага мора, завецца Эстыя або Эстонія.

Вырваўшыся з нядаўнае „турмы народаў“ — расейскае імпэрыі,—Эсты з аднае былое Рэвэльскае або Эстляндзкае губэрні збудавалі ўласную незалежную Эстонскую рэспубліку.

Нават гэткая сусьветная атрута нашых часоў, як расейскі бальшавізм, не патрапіла забіць самастойнага жыцьця Эстаў.

Чаму?

А таму, што Эсты нават і пры гэткім дэспотычным ладзе, як былы расейскі царызм, усе патрапілі быць пісьменнымі.

Як ведама, расейская рэвалюцыя адбылася ў лютым 1917 году, калі ўжо ў Эстаў ня было анальфабэтаў або — няпісьменных.

Вялікую ролю ў выкараненьні няпісьменнасьці сярод эстонскага народу адыграла яго пратэстанскае духавенства.

Мы—беларусы, яшчэ й сягоньня, ня маем свайго нацыянальнага духавенства. На сваіх духоўных пастыраў селянін наш ня можа класьці вялікае асьветнае надзеі. Патрэбна яшчэ барацьба за тое, каб пастыраў гэтых,—найчасьцей выйшаўшых з нашых-жа землякоў,—вярнуць да народу з чужых дарожак.

Эстонскі прыклад сьведчыць, што народ можа здабываць асьвету нават і ў вельмі цяжкіх палітычных варунках.

Калі гэткі фактар, як духавенства, пакуль што, адпадае ў нашых асьветных імкненьнях, дык хто-ж патрапіць асьвету беларускаму народу даць?

Малаасьвечаны народ сам сабе ў гэтым сэнсе, тупаючы на месцы, нічога не парадзіць. Трэба крануцца.

Асьвету нашаму селяніну зможа найлепш даць свая ўласная інтэлігэнцыя, свае родныя асьвечаныя сыны.

Дык трэба гадаваць гэту інтэлігэнцыю. Трэба ўсю ўвагу грамадзкую зьвярнуць на гэтую справу.

Новы школьны год павінен згусьціць рады вучнёўскае моладзі ў Беларускіх філіях дзяржаўных гімназіяў у Вільні і Навагрудку.

Трэба старацца, **каб ніводзін беларускі шкаляр, скончыўшы 6 аддзелаў пачаткавае школы, не астаўся за сьценамі вышэйназваных філіяў,** бо гэта-ж нашыя дзьве сярэднія школы.

За летнія вакацыі кожны кандыдат у сярэднюю школу павінен падвучыцца беларускіх прадметаў, калі, будучы ў польскай пачаткавай школе, азнаёміцца з гэтымі прадметамі яму не ўдалося.

Трудная справа платы за навуку павінна быць пытаньнем першае чаргі ня толькі для самых бацькоў вучняў ці вучаніцаў, а і для кожнага беларуса, якому грамадзкія справы ляжаць на сэрцы.

Бацькаўскія камітэты Беларускіх філіяў дзяржаўных гімназіяў не павінны застацца без падтрыманьня сьвядомае беларускае інтэлігэнцыі, якая ў сяньняшні трудны мамэнт усё-ж такі дзе-ня-дзе мае магчымасьць зарабляць.

Беларусы-радныя ў валасных (gminnych) і гарадзкіх самаўрадах, пры ўкладаньні бюджэтаў на будучы 1935/36 г. хіба што не забудуцца, калі прыдзе на гэта час, — унясьці на разгляд сваіх радаў пытаньне аб асыгнаваньні на рукі Бацькаўскіх Камітэтаў магчымых падмогаў на аплату навукі незаможных вучняў і вучаніц.

Асьвечаная дружнымі грамадзкімі высілкамі моладзь беларуская напэўна не забудзе, хоць у лепшай часьці сваёй, гэтых высілкаў і ў недалёкай будучыні патрапіць іх падвоіць, ці павялічыць да меры магчымасьцяў.

Дзеля каваньня свае культуры патрэбны кавалі. І кавалём гэткім патрэбна ня звычайная мускульная энэргія простага каваля, а моцна разьвітая мазговая энэргія сучаснага культурнага чалавека.

Вывучаная ў школах моладзь зможа павясьці самую шырокую пазашкольную асьвету, а гэткім спосабам за кароткі час можа быць выкаранена няпісьменнасьць у народных масах.

Вось чаму рашуча заклікаем усіх, хто яшчэ не расчараваўся ў магчымасьці лепшае беларускае долі, дружна ўзяцца за асьвету!

## Беларуская Дзяржаўная Гімназія ў Вільні

Прымае заявы ад жадаючых паступіць у гімназію **вясною** ўва ўсе клясы:

**Варункі прыйма:** у I клясу прымаюцца дзеці (хлапцы і дзяўчаты), ў веку ад 12 да 16 гадоў, якія скончылі 6 аддзелаў пачаткавай школы, на падставе праверачнага экзамену з беларускае і польскае моваў, арытмэтыкі, прыроды, гісторыі і геаграфіі:

У II клясу век ад 13 да 16 г. і поўны экзамен па праграме I клясы з усіх прадметаў.

У V кл. (яшчэ па старай праграме) век ад 14 да 17 гадоў і адпаведны экзамен;

У наступныя клясы да VIII ўключна павялічваецца век на 1 год для кожнае клясы.

**Да заявы трэба далучыць:** 1) мэтрыку 2) пасьведчаньне аб прышчэпе воспы і 3) школьнае пасьведчаньне.

Заявы прымаюцца (можна пераслаць поштаю) у канцэлярыі гімназіі (Вострабрамская вул. № 9)

Экзамены ўва ўсе клясы адбудуцца 15 і 16 чэрвеня.

**Пры гімназіі ёсьць інтэрнаты: для хлапцоў і дзяўчат.**

## Пад знакам выбараў у гарадзкія рады.

Гарады па ўсёй Польшчы перажываюць цяпер вельмі важны для іх пэрыяд — выбары ў гарадзкія рады. Дагэтуль адбыліся яны ў 335 гарадох. На агульную лічбу 5858 мандатаў Дзяржаўны Блёк атрымаў 3308 (57%). Пры гэтым Беларусы, згодна з атрыманымі дадзенымі маюць сваіх прадстаўнікоў амаль у кожнай Гарадзкой Радзе. Толькі ў Вільні, гэтым культурна палітычным цэнтру беларускага руху, як гэта ня дзіўна, Беларусы не злажылі свайго ўласнага сьпіску.

А сталася гэта таму, што пры сучасных варунках, калі беларускае грамадзянства разьбілася на невялічкія палітычныя групы, якія ўсю сваю энэргію ськіроўваюць бадай што выключна на ўзаемнае змаганьне, ня можа быць мовы аб стварэньні супольнага выбарчага фронту. Паасобныя-ж групы, выстаўляючы свае сьпіскі, не дасягнулі-б мэты.

Прыглядаючыся дасюлешняму выніку выбараў у гарадзкія рады трэба сьцьвердзіць, што Дзяржаўны Блёк атрымаў абсолютную перавагу ў 239 гарадох, што выносіць 70% усіх гар. Польшчы, Відаць, пачуцьцё адказнасьці перад будучыняй дзяржавы і ўсяго грамадзянства, перамагло партыйніцкі опортунізм.

Як-жа прадстаўляецца справа выбараў у гарадзкую раду гор. Вільні.

*Вільня* папала ў той лік гарадоў, у якіх выбары адбудуцца 10 чэрвеня г.г. Сьпіскаў зложана даволі шмат. Чалавеку цяжка з'арэнтавацца, што які сьпісак сабой прадстаўляе. Розныя палітычныя групкі і групы робяць спробы і прыкладаюць усе высілкі, каб хоць частковы ўтрымацца на сваіх пазыцыях, аднак *„Блёк Гаспадарчага Адраджэньня Вільні (сьпісак № 1)* — за паважная конкурэнцыя, каб іншыя політычныя партыі, маглі атрымаць над ім перавагу.

Нам, беларусам, як немаючым свайго ўласнага сьпіску, прыдзецца галасаваць за тых людзей, якія маюць за сабой стаж грамадзкае працы, якія сапраўды змогуць апраўдаць выказаны ім давер, якія сапраўды дарасьлі да таго, каб адкінуць свае прыватныя амбіцыі ды ахвярна аддацца грамадзкай працы. Такія людзі якраз ёсьць сярод кандыдатаў сьпіску № 1 *Гаспадарчага Адраджэньня Вільні.* *М—а.*

**Просім усіх паважаных падпішчыкаў нашае газэты ўрэгуляваць належную падпісную плату да 20-га чэрвеня г.г. У праціўным выпадку ад I.VII. г.г. высылка газэты спыніцца. Грошы просім высылаць праз Р.К.О. конто № 61.991 Wł. Mankiewicz Wilno, Ostrobamska Nr 1.** *Адміністрацыя.*

# Гаспадарчы аддзел.

## Які вулей найлепшы?

Людзі займаліся пчалярствам з надта даўных часоў. Прадзеды нашы гадавалі пчолаў у калодах пастаўляных, часам, надта высака на дрэвах. Раней разводзілі пчолаў вельмі прымітыўным спосабам, працы пакладалі мала, а чакалі толькі каб надышла пара, каб можна было выдзерці з калоды як найболей мёду. Былі ўсё-ж тады іншыя часы. Бары, імшары, гаі слаўныя, пушчы нашай зямелькі — адпаведныя абставіна для прымітыўнага пчалярства. Абставіны зьмяняліся — зьмяніўся і спосаб гадоўлі пчол. Калода, з шматвяковага дрэва ў бары, прыйшла блізка да беднай сялянскай хаты. Чалавек пачаў бліжэй знаёміцца з жыцьцём пчол, пачаў старацца атрымаць карысьць з пчолаў у шмат горшых абставінах.

У навейшых часох пчалярства пачынае выходзіць з нялёнак старасьветчыны, а поступ яго зазначыўся ня толькі сярод знаных пчаляроў-паступоўцаў, але пачаў пранікаць і ў шырэйшыя рады нашых вясковых пчаляроў. Калоды перастаюць ужывацца а іх месца заступаюць рамовыя вульлі і вульлі з надстаўкамі.

Пры помачы шматгадовых досьледаў вядомыя пчаляры дайшлі да пераконаньня, што найлепш адпавядаючы сучасным абставінам ёсьць вулей з надстаўкай (з надстаўным мёдным магазынам). Прыкладам вульля з надстаўкай можа служыць дасканальны, вулей амэрыканскай сыстэмы—Дадана. Вулей Дадана складаецца з двух частак: гнязда дзе пчолы размнажаюцца і мёднага магазыну, які ставіцца зьверху на час галоўнага мёдабраньня. Вулей такой канструкцыі можна адпаведна зьмяншываць і павялічваць. Калі на вулей з сільнай сям'ёю дадзім надстаўку, то змусім пчолаў да інтэнсыўнай работы, бо ведаем што пчолы ня любяць пустаты над гняздом і таму заўсёды мёд складаюць у версе гнязда. Калі надстаўку дадзім у пору, то пчолы ня будуць размнажацца ў ёй, а будзе служыць як склад мёду. З надстаўкі атрымоўваем чысты мёд і воск. Пры застасаваньні цэнтрабегі надстаўныя рамкі могуць служыць шмат гадоў. Застасоўваньне надставак да вульлёў Варшаўскіх і Лявіцкага, якія досыць у нас пашыраны, гэта рэч непрактычная, бо ў гэтых вульлёх рамкі высокія, дык пчолы плодзячыся ў ніжняй іх частцы маюць месца на складаньне мёду ў верхняй. Вульлі амэрыканскай сыстэмы вельмі выгадныя толькі трэба з работаю ў іх быць абзнаёмляным.

Бяручы пад увагу ўсё вышэй сказанае вульлі з надстаўкамі заслугоўваюць на пашырэньне. Хто захоча зазнаёміцца дакладна з будовай вульля Дадана і работай у такім вульлі — знойдзе гэта ў беларускай кніжцы Я. Пачопкі „Пчолы“. (Кніжку гэту можна купіць на складзе ТБА і ў кнігарні Манкевіча Wilno ul. Ostrobramska № 1).

## Як даглядаць буракі пасьля пасеву.

Кармавыя буракі пры цёплай пагодзе ўзыходзяць да 10-ці дзён. Калі верхні слой зямлі вельмі сьцьвярдзеў, дык трэба яго ўзрушыць баранаваньнем лёгкаю бараною папярок радкоў. Як ужо буракі выпусьцілі лісткі на 1-2 цантымэтры, трэба ўзварушыць зямлю і апалоць. Можна гэта зрабіць ручна пры помачы матыкі, а можна і пры помачы палольніка. Рабіць гэта трэба вельмі асьцярожна, каб грудочкамі зямлі ня прысыпаць сяродачкаў маладых расьлінак. Апрача полiва трэба буракі, калі яны густа ўзышлі, прарваць, а ў сухіх мясцовасьцях трэба часьцей узварушваць зямлю. Першы раз прарваць буракі, калі яны ўжо выпусьцілі чацьверты лісток. Пры першай прарыўцы застаўляюцца ўсе сільнейшыя расьлінкі, а слабыя выкідаюцца. Пры другой прарыўцы праз пару тыдняў пасьля першай, застаўляюцца найсільнейшыя расьліны. Пры прарыўцы трэба дбаць, каб паміж паасобнымі буракамі была адлегласьць ад 25 цантым да 40 (залежыць ад грунту). Калі ў радох ёсьць вольныя месцы, дык трэба вырваныя здаровыя буракі туды пасадзіць. У сухую пагоду буракі трэба паліваць, асабліва пасьля поліва. Пасьля некалькіх дзён па поліву, як буракі ўжо перахварэюць, добра падліваць іх гнаёўкаю або паміж радамі ўгноіць патасавымі солямі.

З прарываньнем буракоў ня можна позьніцца, дзеля таго, што перарослыя прарваныя буракі родзяць шмат менш.

## Збажовыя мухі.

З двукрылых казулек вялікія шкоды ў хлебаробстве робяць т. зв. збажовыя мухі, з якіх асабліва ўвагі заслугоўваюць: гэсэнская муха, швэдзкая муха і муха зялёнавочка.

1 *Гэсэнская муха.* Гэсэнская муха ёсьць найболей небяспечнай збажоваю мухай. Зьяўляецца яна ў вялікіх колькасьцях ня кожны год, але, зьявіўшыся, робіць вялікія шкоды. Муха гэта невялічкая — да 3-4 мілімэтраў даўжыні; колеру яна чорнага з чырванаватымі пружкамі на брушку і чырвона-жоўтымі вусікамі; ногі ў яе доўгія і тонкія. Дзякуючы яе такому вонкаваму выгляду, называецца яна яшчэ „хлебным камаром“.

Шкоду гэсэнская мушка прыносіць сваімі лічынкамі (чарвячкамі), якія вылупліваюцца з знесенных мушкаю яечак. Лічынка гэтай мушкі ёсьць белаватага колеру. Вылупіўшыся з яечка, яна спушчаецца па лісту хлебнае расьліны ўніз і залазіць у похву ліста над самым каленцам, дзе сьцябло збажыны ёсьць асабліва далікатнае і высмоктвае з яе сокі, дзякуючы чаму расьліны слабнуць, жаўцеюць і часта цалком гінуць. Калі гэсэнская мушка накладзе сваіх яечак на маладыя расьліны перад тым, як тыя пачнуць кусьціцца, то астатнія, зазвычай, потым зусім ня выпускаюць каласоў. Калі-ж расьліны падрастуць і пакрапчэюць і тагды іх пашкодзіць лічынка гэсэнскай мушкі, то яны хаця і каласуюць, але кепска наліваюць і такі колас выглядае, як бы памятым. Часта пашкоджаныя лічынкай сьцяблы ад подуву ветру ломяцца якраз у тым мейсцы, у якім смактала іх лічынка.

Гэсэнская мушка вельмі пладлівая Нармальна кладзе яна яечкі два, а ў цёплыя гады і тры разы ў год. У паўднёвых краінах спасьцерэжана, што гэсэнская муха кладзе яечкі і да 5 раз у год. Яечак кожны раз кладзе яна таксама шмат—да 200 штук. З яечак гэтых працягам некалькіх дзён вылупляюцца, як мы казалі ўжо раней, лічынкі; праз якійсь час лічынкі ператтвараюцца ў лялькі, з якіх выходзяць маладыя мушкі.

Першае пакаленьне гэсэнскае мушкі зьяўляецца ў канцы красавіка і траўня, а другое — ў канцы жніўня і верасьня

Барацьба з гэсэнскаю мухаю вядзецца рознымі спосабамі. Пасеў яравых пераводзіцца ранней, а калі на іх аб'явіцца шкоднік, то гэтыя пасевы ўзмацняюцца пасыпаньнем салетры. Ня сеюць яравога збожжа пасьля азімага, якое было нападзенае шкоднікам. Іржышча нападзенага збожжа паліцца, або глыбака заворваецца, дзякуючы чаму можна пазбавіцца васеньняга пакаленьня гэсэнскае мухі. Не пакідаецца на зіму ня прыворанай падоліца (парост, які паўстаў з асыпаўшыхся ў часе жніва зернят), бо на ёй шкоднік, зазвычай, перазімоўвае. Азімыя пасевы сеюцца па магчымасьці пазьней (у пачатку верасьня), калі гэсэнская муха перастае лётаць.

Апрача таго, для барацьбы з гэтым шкоднікам робяцца спэцыяльныя лоўчыя пасевы ці прыманкі, на якія гэсэнская муха ахвотна кладзе яечкі (ў канцы чэрвеня наўкола захвачанага поля сеецца вузкай паласою,—да $^1/_2$ мэтра шырынёю, — ячмень, пшаніца або жыта, якія канцом ліпеня заворваюцца разам знаступным пакаленьнем мухі).

2. *Швэдзкая муха.* Швэдзкая муха прадстаўляе сабою маленькую, даўжынею ў 2 мілімэтры, казульку бліскуча-чорнага колеру з рудавата-жоўтымі вусамі. Казулька гэта шкодзіць аўсу, ячменю, жыту і пшаніцы. Лічынкі швэдзкае мухі прадстаўляюць сабою белаватых, бязногіх чарвячкоў з завостранай галоўкай; жывуць яны ў паасобку ў лістовых похвах над самым ніжнім каленцам, маладых гонаў і выгрызаюць найдалікатнейшыя часткі гэтых астатніх. У восені яны нападаюць на пасевы азімых, а вясною на яравое збожжа, асабліва на авёс і ячмень.

Першы вылет швэдзкае мухі адбываецца ў месяцы траўні, пасьля чаго яна зараз-жа складае яечка. З яечак вылупляюцца лічынкі, якія праз 3-4 тыдні ператвараюцца ў лялькі жоўта-чырвонага колеру.

З лялькі за 8-10 дзён вылятае маладая муха. Вылет гэты адбываецца ў чэрвені месяцы. Прыблізна ў гэты самы час швэдзкая муха закладае яшчэ трэцяе пакаленьне, налепляючы яечкі на каласы аўса і ячменю, дзякуючы чаму руйнуюцца маладыя зерняты.

Пашкоджаныя лічынкай швэдзкай мухі расьліны чырванеюць, жоўкнуць і, нарэшце, цалком гінуць. Выжываюць з іх толькі тыя, каторыя здоляюць перажыць да таго часу, калі лічынка ператвараецца ў ляльку.

Сродкамі барацьбы з гэтым шкоднікам ёсьць вырываньне загінуўшых расьлін і нішчаньне іх, а таксама прыкатваньне пасеваў цяжкімі валкамі, дзякуючы чаму шмат лічынак гіне. Каб не дапусьціць пашырэньня швэдзкае мухі з азімае збожыны на яравую, не радзіцца апошнюю сеяць паблізу азімых пасеваў, якія былі апанаваны гэтым шкоднікам.

3. *Зялёнавочка.* Зялёнавочка ёсьць бліскуча-жоўтага колеру мушка, даўжыня якое дасягае 3-4 мілімэтраў. Шкодзіць ў пшаніцы, жыту і асабліва ячменю. Перша

---

*Альм.*

# Сцэна.

(гл. № 12 „Р. К.“).

Другім элемэнтам сцэнічнай тэхнікі, як мы казалі, зьяўляецца міміка. Дэклямацыя бяз мімікі, галоўным чынам бяз рухаў мускулаў твару—не магчыма. Рухі нашага цела былі той першабытнай мовай душы, каторая з часам разьвілася ў мову слоў. Але ў цяперашняга чалавека гэта мімічная мова не прапала; яна якбы дапаўняе, паглыбляе значэньне слова. Яна заменяе яго тады, калі нехапае слоў для выражэньня нашых душэўных перажываньняў. Зразумела, што артыста ня можа абыйсьціся без мімічных рухаў, дзеля таго, што падставай для мімікі зьяўляецца душэўнае перажываньне дзеючае асобы. Тэатр, каторы імкнецца да сапраўднай мастацкасьці, ня можа пагадзіцца з такой мімікай, каторая зьяўляецца якбы аднэй і той самай вопраткай, пашытай для людзей differently рознага росту й будовы.

Мы прывядзем рад мімічных рысаў, каторыя павінны быць выражэньнем рознага віду душэўных рухаў, але ўсе гэтыя рысы ня могуць быць прыняты артыстам, як нешта нязьменнае. Творчая здольнасьць артысты павінна зьмяняць схэму мімікі. Але ня трэба забываць, што ў розных клясах насяленьня і прадстаўнікоў розных нацыянальнасьцяў ёсьць свая ўласная мімічная мова.

Артысту, каторы прадстаўляе розных людзей, нельга, пэўна, трымацца раз на заўсёды ўстаноўленных правілаў мімікі. Але ўсе-ж гэтыя правілы складаюць асноўны ўзор рухаў твару і цела. Ім могуць быць наданы розныя адценкі. Можна ў розных відах паказаць пачуцьцё сораму ў розных прадстаўнікоў паасобных клясаў насяленьня, але нельга замяніць выражэньне сораму, скажам, выражэньнем страху.

Артысту раней ўсяго трэба зазнаёміцца з характарам асобы, каторую ён прадстаўляе і тады ўзяць для яе адпаведную паходку, рухі і наогул выгляд.

Аўтар твору „Вучэньне аб душэўных перажываньнях“, Серабракоў, кажа, што адным з аснаўных пачуцьцяў у драме — ёсьць пачуцьцё страху. Як прыклад возьмем мы яскравыя апісаньні гэтага пачуцьця Дастаеўскім у „Праступленьні і кары“. Пачуцьце гэта выабражана наступным чынам: „Сярод пакою стаяла Альжбета з вялікім вузлам у руках і ў аслупеньні глядзела на забітую сястру, уся белая, як палатно і якбы ня маючы сіл крыкнуць. Пабачыўшы яго выбегла, яна задрыжэла, як ліст і па ўсяму твару яе прабеглі сударгі, прыпадняла руку, расчыніла вусны але ўсё-ж такі ня крыкнула і павольна задам стала пасоўвацца ад яго ў кут, упорна гледзючы на яго, але ўсё-ж такі ня крычучы быццам не хапала ёй паветра, каб крыкнуць. Ён кінуўся на яе з сякерай; губы яе перакасіліся так жаласна, як у вельмі маленькіх дзяцей, калі яны пачынаюць чаго небудзь палохацца, упорна глядзяць на палохаючы іх прадмет і зьбіраюцца закрычэць. І да таго гэта нешчасьлівая Альжбета была забіта і напалохана раз на заўсёды, што нават не падняла рукі абараніць свой твар, хаця-ж гэта быў самы неабходны, натуральны жэст у гэту хвіліну, таму што сякера была паднятая над яе тварам“.

Гэтае апісаньне паказывае тыя фізычныя зьмены, пры каторых праходзіць пачуцьцё страху.

Як-жа дасягнуць артысту гэтых фізычных зьменаў? Пэўна пачнем ад шырака адчыненых вачэй. Часта дыханьне таксама мае значэньне мімічнага руху. Якраз тут гэтае нарушэньне рытму дыхальных рухаў павінна быць штучна паказана. Тут можа быць конвульсыўнае ўздрыгіваньне паасобных мускулаў твару. Конвульсыўна могуць уздрыгіваць павекі, ніжняя сківаца, язык. Пры гэтакіх конвульсыях чалавек становіцца амаль заікай.

Формы страху: непакой і падазронасьць выражаюцца ў наступных рухах. Пры непакоі — рухі хуткія і пэрыядычныя. Асоба часта зьмяняе позу: то ўстае, то сядае. У зроку відаць няпэўнасьць. Падазроннасьць выражаецца падняцьцем броваў, падняцьцем губы і моцным сьціскаьнем рота.

Падняцьце броваў можа выражаць і іншае перажываньне, як напрыклад экстаз, сорам, ачараваньне, яно можа быць і пры фізычнай болі.

Пры ўзрастаючым гневе галасавы апарат можа прогрэсыўна павышацца, або паніжацца.

(Далей будзе).

Большасьць субскрыбэнтаў ужо ўрэгулявала свае забавязаньні; аблігацыі Пазычкі з першай ратай працэнту атрымаюць яны 1.VII. Сплачваюць пазычку яшчэ тыя, хто скарыстаў з разлажэньня яе на 10 рат.

× На 2. VI лік зарэестраваных безработных на ўсей тэрыторыі Польшчы выносіў 329.366 чал., гэта значыць, на 5.039 чал. менш, чымся ў мінулым тыдні.

× На днях закончыўся камуністычны судовы працэс у луцкім Акружным судзе (выезная сэсія ў Коўлі), супроць 56 камуністаў, абвінавачаных у арганізаваньні дывэрсыйных бандаў на Валыні. Засуджана: 2-х абвінавачаных па 15 гадоў, 3-х—па 12 г., 5-х — па 10 г., 26—па 8 г., 13—па 6 г., 4—па 5 г., 1—на 1 год турмы. Двух апраўдалі. Усіх засуджаных пазбавілі публічных правоў на 10 гадоў.

× У сувязі з выбарамі ў Раду м. Вільні, шырока вядзецца прадвыбарчая акцыя. Сьцены дамоў і платы залеплены выбарчымплакатамі з заклікамі розных блёкаў. Адбываецца што-дня па некалькі вечаў.

5 г. м. было склікана веча ППС (Польскай Соцыял. Партыяй). Калі прысутныя пераканаліся, што прамоўцы агітуюць за аддаваньнем галасоў на лісту ППС—пачалося забурэньне. У выніку агітатары ППС змушаны былі ўцячы, а веча ператварылася на веча Гаспадарчага Блёку, якая вынесла рэзалюцыю салідарнага адданьня галасоў на блёк № 1.

× У хуткім часе мае выйсьці міністэрскае распараджэньне адносна ўтварэньня палюбоўных судоў для рамесьленікаў. Абавязкам гэтых судоў будзе разгляд непаразумленьняў паміж рамесьленьнікамі і іх працаўнікамі, а таксама паміж рамесь. і кліентамі.

× У апошнія часы пашыраюцца забастоўкі работнікаў у розных прадпрыемствах з прычыны нявыплачваньня належнай работнікам платы. У Пусьцельніках каля Варшавы страйкуюць работнікі ў прадпр. Гальпэрна, якім у працягу 3-х тыдняў ня выплачана плата.

## За граніцай.

× Шырака абгаварваецца ізноў справа сьціслага супрацоўніцтва, а магчыма і саюзу **балтыцкіх дзяржаў**: Эстоніі, Латвіі і Літвы. Прапазыцыя адносна ўтварэньня гэтага саюзу выйшла з Літвы. Прынцыпова Латвія і Эстонія аднесьліся да гэтае думкі прыхільна, аднак разумеюць гэты саюз не інакш, як у сьціслым, паразумленьні з Польшчай.

× Армія Злучаных Штатаў (**Амэрыка**) ў найбліжэйшым часе мае быць павялічана са 130 тыс. на 179 тыс. жаўнераў. Гэтае павялічэньне тлумачаць амэрыканцы тым, што ў сучасны момэнт існуючая колькасьць войска не патрафіла-б абараніць дзяржавы. А ў Гэнэве гаворыцца аб разбраеньні..

× У Злучаных Штатах (**Амэрыка**) паўстаюць шматлікія страйкі. Захады ўладаў, у кірунку зьліквідаваньня гэтага стану пакуль што не далі позытыўных вынікаў. Прадбачыцца генэральны страйк.

Работнікі дамагаюцца, каб працадаўцы прызналі агульныя работніцкія саюзы, чаго апошнія ня хочаць зрабіць, баючыся зарганізаванай сілы.

× Француская прэса падае цікавыя дадзеныя, адносна **нямецкага** аэрапляннага збраеньня, а менавіта: будуюцца падземельныя гангары для аэрапланаў: 2 у Прусіі, 1 пад Хоцеборам і 1 у Мэклембургу.

+ 3.VI. г. г. ў латвійскім міністэрстве замежных спраў наступіў абмен ратыфікацыйных дакумэнтаў адносна прадоўжаньня ізноў на 10 год тэрміну дзеяньня **латвійска-савецкага** дагавору аб непападаньні.

× У Ленінградзе распачаўся працэс супроць 55 асоб., абвінавачаных у надужыцьці ў дзяржаўнай гандлёвай арганізацыі на суму паўмільёна рублей.

× У гэтым месяцы мае прыехаць у Варшаву **нямецкі** міністр д-р. Язэп Гэбэльс, з мэтай адчытаньня рэфэрату на тэму актуальных пытаньняў Нямеччыны.

× Паводле апошніх дадзеных бюджэтны дэфіцыт Злучаных Штатаў за 11 месяцаў сёлеташняга бюджэтнага году выносіць 3.647 міл. дал.

+ У **СССР** прыбыла новая партыя сяброў аўстрыяцкага Шуцбунду, якія бралі ўдзел у венскіх разрухах.

+ Прэзыдэнт Рузэвэльт адбыў 5 г. м. нараду з прадстаўнікамі 15 штатаў, якім пагражае няўраджай, у сувязі з засухай. У форме помачы, урад вызначыў пацярпеўшым 1.178.000.000 даляраў. Калі-б заходзіла патрэба—прэзыдэнт упаўнамочаны павялічыць суму крэдытаў да 6 міліярдаў даляраў.

+ **Бэльгійскі** парлямэнт прызнаў флямандзкую мову раўнапраўнай побач з урадавай францускай. Ад гэтага часу можна будзе яе ўжываць ува ўсіх урадавых установах і ў арміі.

+ Гэтымі днямі прыехаў з Парыжа у СССР начальнік экспэдыцыі **Чэлюскіна** праф. Шмідт з кіраўніком ратунковай экспэдыцыі Ушаковым. У Варшаве прывіталі Шмідта прадстаўнікі некаторых навуковых арганізацыяў і прэсы. У гутарцы з імі праф. Шмідт зазначыў, што ня гледзячы на вялізарныя труднасьці —увесь навуковы матэр'ял удалося ўратаваць. Рэзультаты апошняй экспэдыцыі, па думцы прафэсара, вельмі паважныя У Менску прыбылых прывітаў урад БССР на чале з прэм'ерам Галадзедам.

+ Як падае у сваей апошняй справаздачы National Industrial Conference Board, лік безработных у **Амэрыцы** ў красавіку г. г. сягаў 7.907.000 чалавек. Калі параўняць гэты лік з цыфрай 1933 г. (13.200.000 безработных — маем зьменшаньне безрабоцьця на 40 пр.

+ У Бесарабіі (**Румынія**) выкрыта, сярод нямецкіх каляністаў, вялікая гітлераўская арганізацыя. Канфіскавана тайны склад аружжа і арыштавана больш 20 чал.

× Вайна паміж **Болівіяй** і **Парагваем** (Амэрыка) прадаўжаецца. Болівійскі ўрад мобілізаваў прызыўных 1905—1916 г. Вялікшыя бітвы адбываюцца каля Каньяды. Падобна, парагвайцы разьбілі болівійскую 3-ю дывізыю і вядуць офэнзыву ў старану форту Болів'яна на рацэ Пількомаё. У бітвах прымае ўдзел 50.000 жаўняроў.

× Урад **Злуч. Штатаў** (Амэрыка) выасыгнаваў 40 мільёнаў даляраў на будову 14 контрміналосцаў, 6 падводных лодак і 225 аэрапланаў.

## „Iskry Skaryny“.

Беларускае (Крывіцкае) Таварыства імя Францішка Скарыны ў Празе (Чэхаславакія) выдае пад вышэйназваным загалоўкам сваю часопісь.

Перад намі № 4 гэтае часопісі — травень 1934. Як азначана на мастацкай вокладцы, часопісь мае ўжо 4-ты год выданьня: значыцца выходзіць яна рэдка; адбіваецца на памнажальніку (шапірографе), а ня друкарскім спосабам; малая лікам і бедная матар'яльна беларуская эміграцыя, відаць, ня мае магчымасьці *друкаваць* прадукт свае думкі. „Іскры Скарыны“ — гэта тып часопісі, сказалі-б мы, са зьместам *цяжкае* лектуры; супрацоўнікі яе найчасьцей маюць пры сваіх прозьвішчах тытулы: *д-р, інж.,* што азначае—*доктар, інжынер*. Гэтыя тытулы,—трэба ведаць нашым чытачом,—даюцца заграніцай кожнаму, хто скончыць вышэйшую школу: унівэрсытэт або які тэхнікум. Доктар тут можа быць не абавязкава мэдык, які лечыць хворых, як гэта прынята называць у нашым народзе кожнага лекара (апрача знахароў)—можа быць д-р філёзофіі, д-р соцыялёгіі, д-р права. А інжынерам у чэхаў завецца, напрыклад, аграном, ня толькі архітэктар або панашаму будаўнічы, ці там інжынер горны або гэолёг, ці зноў тэхнолёг-інжынер.

Вось-жа „Іскры Скарыны“ маюць сваімі супрацоўнікамі пераважна беларускую маладую інтэлігэнцыю, прайшоўшую чэскія высокія школы.

Зьмест часопісі вельмі паважны, калі ня лічыць вершаў, слабаватых настолькі, што яны псуюць сабою ўражаньне ад солідных тэмаў, закранутых і моцна прадуманых аўтарамі ў прозе часопісі.

Праўда, мае ў сабе цікавыя месцы вершаваная драма нябожчыка Пётры Крэчэўскага пад загалоўкам „Рагнеда“. Гістарычная тэма з эпохі сівае нашае полацкае мінуўшчыны дачакалася таго, каб быць закранутаю ў беларускай літэратуры не літэратарам, а палітыкам, якім у жыцьці сваім вядомым для нас быў Крэчэўскі. Як на першую спробу пяра, дык аўтар ня зусім блага справіўся з сваёю задачаю, будучы закіненым на чужыну; здалёк ад свае роднае зямлі трудна тварыць шэдэўры.

Разгляданы намі № 4 «Іскраў Скарыны» мае гэткі зьмест: 1. „Шляхам Скарыны“ — д-р Тамаш Грыб. 2. Голад (верш)—Ольга. 3. „Покліч“ (верш)—Б. Тума. 4. „Туга“ (верш)—Ольга. 5. „Рагнеда“—драма. 6. „Фрагмэнты“—Аркас. 7. „З народнага“—В. Р-к. 8. „Сялянская кабета ў сям'і і ў грамадзкім жыцьці“—Базыль Карусь. 9. „На дапамогу земляробству“—інж. І. Ж-каў. 10. „Соцыялёгія гандлю“ — інж. Гандлёвец. 11. „Што ведаем у сучаснасьці аб радыю (radium—Рэд.) —д-р Ян Ермачэнка. 12. Дзьве культуры і дзьве эспансіі“—В. Захарка. 13. „Падаль“—В. Р-к. 14. „На земле мір, а ў чэловецэх благоволеніе“ — Б. 15. „Рэлігійная справа на Беларусі — д-р Тамаш Грыб. 16. „Аўтокэфалія праваслаўнае царквы на Беларусі — інж. В. Р-к.

Далей у аддзеле „Бібліографія“ (17) чытаем: „Новыя матар'ялы да гісторыі беларускае народнае песьні“. „Голас чэскага гісторыка ў справе будаўніцтва дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі“. „Гаспадарчае адасабленьне Зах. Беларусі“—Т-ш. 18. Хроніка.

Д-р Грыб філёзофічным артыкулам „Шляхам Скарыны“ пачынае часопісь, надаючы праграмны характар усяму далейшаму зьместу і, па магчымасьці, усебакова разглядаючы пагляды на тагочаснае жыцьцё Беларускага Народу першага беларускага адраджэнца-гуманіста Ф. Скарыны.

В. Захарка артыкулам „Дзьве культуры і дзьве экспансіі“ (расейская і беларуская) полемізуе з выступленьнямі расейскіх вучоных-імпэрыялістаў на эміграцыі, як Мілюкоў і Муратаў; цытатамі з твораў расейскіх-жа вучоных: Платонова, Уладзімірскага Буданава, Пыпіна і Любаўскага наш аўтар разьбівае навуковую фальш маскоўскіх велікадзяржаўнікаў.

У канцы свайго артыкулу, на аснове цьверджаньняў расейскіх-жа вучоных, В. Захарка робіць вывад, які сам сабою напрашваецца:.. „як культурныя помнікі Пскова, Ноўгараду і Кіева, так і культурныя помнікі былое Беларуска-Літоўскае дзяржавы,— ніколі Расеі не належалі і не належаць“.

—„Заслужаным помнікам былой Расеі, — заключае Захарка, — можа быць толькі тая глыбокая магіла, у якую яна, па сваім „звыку“ пахавала нацыянальную літэратуру, культуру і дзяржаўнасьць беларускага народу“.

Рэдакцыйная камісія „Іскраў Скарыны“ робіць да артыкулу ці вярней да закранутае Захаркай тэмы свае заўважаньне, ад'значаючы, што ў далейшых нумарох часопісі *„будуць зьмяшчацца ўсе тыя матар'ялы, якія хоць у якой-небудзь частцы высьвятляюць вельмі складную і заблытаную справу культурных, эканамічных і палітычных узаемаадносін народаў на Усходзе Эўропы“*...

Да „Рагнеды“ Крэчэўскага таксама зроблена заўважаньне з заклікам да беларускіх літэрацкіх сілаў зьвярнуць увагу на гэраічныя мамэнты беларускае мінуўшчыны і творы на адносныя прысылаць у „Іскры Скарыны“. Хоць і небагатая фінансава рэдакцыя дакляруе нават аўтарскі гонорар.

Д-р Тамаш Грыб шырока ахапіў рэлігійнае пытаньне ў артыкуле „Рэлігійная справа на Беларусі“. Аўтар узяў за motto словы Карлейля: „Нашай вялікай мэтаю ня ёсьць тое, што мігаціць у імглістай далі, а рабіць тое, што маем ясна перад сабой“.

На колькі паважны падыход аўтара да свае тэмы, найлепш характарызуюць гэта падзагалоўкі артыкулу: 1. Да пастаноўкі пытаньня. 2. Шчырае прызнаньне. 3. Беларускія рэлігійныя часопісі. 4. Узрост нацыянальнае сьвядомасьці і пашырэньне рэлігійнага індыфэрэнтызму ў народзе. 5. Узрост і пашырэньне рэлігійнага сэктанства. 6. Хіба ўзрост і пашырэньне сэктанства азначае заняпад рэлігійнасьці ў народзе? 7. Заняпад праваслаўнае царквы і каталіцкага касьцёлу на Беларусі. 8. Дзьве веры ў народзе: адна — традыцыйная, а другая—афіцыяльная. 9. Рэлігія і палітыка. 10. Каталіцкі касьцёл і праваслаўная царква на Беларусі —башты асыміляцыі беларускага народу. 11. Тры галоўныя прычыны заняпаду праваслаўнае царквы і каталіцкага касьцёлу на Беларусі. 12. Прычыны ўзросту і пашырэньня рэлігійнага сэктанства на Беларусі. 13. Беларусізацыя, як спосаб здабыцьця народу і 14. А далей што?

Заўважыўшы, што „Сьветач Беларусі“ *ўважае, што праваслаўная царква на Беларусі павінна стаць сымболем беларускасьці,* а „Chryścijanskaja Dumka“ крыху іначай: *што еднасьць беларускае мовы ў праваслаўнай царкве і ў каталіцкім касьцёле прывядзе з часам да поўнае нацыянальна-царкоўнае еднасьці, да вуніі,* — д-р Грыб на сваё апошняе пытаньне стаўляе новае: „Узьнікае пытаньне: ці беларусізацыя праваслаўнае царквы і каталіцкага касьцёлу на Беларусі зьяўляецца толькі першым крокам на шляху да стварэньня беларускага нацыянальнага веравызнаньня?“

Беларуская вучоная моладзь дае запраўды сільны зьмест „Іскрам Скарыны“, хоць моваю беларускай апэруе далёка ня з поўнай чысьцінёю. На што ўжываць напрыкл., *крок* замест *шаг*, *помнік* зам. *памятнік*, *шэраг* замест *рад*. Ізноў-жэ, калі ў нашай жывой народнай мове зусім свойскімі зьяўляюцца словы: *ямо, дамо, стаімо*, дык жыўцом узятымі з украінскага трэба лічыць ужываныя ў „Іскрах Скарыны“ *маемо, будземо, просімо*, бо пабеларуску — маем, будзем, просім, ходзім, носім і г. д.

Адрэс Беларускага (Крывіцкага) Культурнага Т-ва ім. Фр. Скарыны: Чэхаславакія, Praha — Dejvice, čp. 548.

*К. М.*



Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ. Выдавец: ТБА. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22.